# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1552) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 9 ЛЮТАГА 1986 г. ЦАНА 10 зл.

## З ДУМКАЙ ПРА НАС, БЕЛАРУСАЎ

**ІНТЭРВ'Ю З НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ ВАЯВОДСКАЙ РАДЫ ПРОН, НАМЕСНІКАМ СТАРШЫНІ ГП БГКТ, ЯНКАМ ЗЕНЮКОМ.**

**„Ніва“: За ПРОНам амаль тры гады цяжкой і адказнай працы...**

Я. З.: Перш за ўсё трэба сцвердзіць, што ідэю нацыянальнага паразумення наша грамадства поўнасцю падтрымала. Пра гэта найлепш сведчыць удзел насельніцтва ў выбарах у Сейм, напрыклад, у Гайнаўскім выбарчым раёне галасавала 95 прац., у гміне Кляшчэлі — 97,8 прац., а ў вёсцы Міклашы каля Орлі — 100 прац. выбаршчыкаў. Але на правядзенні выбараў наша дзейнасць не закончылася. Цяпер якраз ідзе вялікая работа над выказанымі выбаршчыкамі на перадвыбарчых сходах ці ў лістах у выбарчыя канвенты тысячамі пастулатаў, прапаноў, заўваг. Кожны з іх падрабязна разглядаецца і прызначаецца адпаведнай установе для выканання.

**„Н“: У гэтай працы відаць быў вялікі твой асабісты ўдзел як намесніка старшыні Ваяводскай рады ПРОН і раднага Ваяводскай рады нарадовай.**

(Працяг на стар. 4)



Д-р Янка Зенюк

## ЛЮДЗІ

## КАЛІ ТЫ ДЫРЭКТАР...

Помняцца мне моцныя выступленні Васіля Ляшчынскага — дырэктара пачатковай школы № 3 у Бельску. Адно мела месца на нарадзе настаўнікаў беларускай мовы і дырэктараў школ у Кураторыі асветы і выхавання, другое — у ГП БГКТ на адной з нарад. Датычылі яны пабудовы дадатковага школьнага будынка для „тройкі“.

Васіль Ляшчынскі ўмела выкарыстоўваў усе магчымасці, пераконваў, аргументаваў, выступаў да той пары, пакуль не была зацверджана гэта інвестыцыя. А пасля намагаўся, каб як мага хутчэй пачаліся земельныя работы, пазней — каб хутчэй змураваць і накрыць будынак, а яшчэ пазней — каб як мага хутчэй яго закончыць. Усё гэта патрабавала заўзятасці, настойлівасці, многіх размоў з многімі і, што тут гаварыць, часам трэба было праглынуць і горкую пілюлю.

Гаворачы аб вялікай заангажаванасці дырэктара, не хачу, вядома, казаць, што і іншыя людзі, прадстаўнікі ўлад і розных прадпрыемстваў, не маюць вялікіх заслуг і свайго ўкладу ў гэтую будоўлю.

І вось нядаўна наведаў я бельскую „тройку“. Трохпавярховы будынак з шырачэзнымі калідорамі і вялікімі вокнамі, усюды чысціня і парадак. Спецыяльны праход спалучае падстаўоўку з будынкам ліцэя, у якім частку памяшкання займае і „тройка“. Усё гэта робіць вялікае ўражанне, асабліва, калі ўзяць пад увагу тое, што школа была перададзена ў карыстанне за няпоўныя два гады.

— Цяпер то ўжо хапае вам месца на ўсё, — звярнуўся я да дырэктара. На маё здзіўленне дырэктар адказвае мне, што зноў ужо робіцца цесна.

— Раней было восем залаўкласаў, а цяпер — 16. Аднак, раней у школе было пяць з палавінай соцень дзяцей, а цяпер — сем з палавінай. Не можам прыняць усіх жадаючых вучыцца ў нас, — адказаў Васіль Ляшчынскі. — Але давайце будзем гаварыць не аб тым, што было, а аб тым, што будзе!

І дырэктар пачаў гаварыць пра пабудову вялікай спартыўнай залы (42 на 33 м), з якой мог бы карыстацца ўвесь горад і іншыя школы. У мінулым годзе былі створаны грамадскі ка-

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

## ПЛЁН УМЕЛЫХ РУК

Было гэта на другі дзень Каляд. Прэзас беластоцкай „Цэпэліі“, колішні вучань Бельскага беларускага ліцэя — магістр **Аляксандр Пугацэвіч** запрасіў мяне на паездку па вёсках у наваколлі Бельска, дзе жывуць народныя ўмельцы, якія свае вырабы з дрэва і саломы пастаўляюць спулдзельні народнага і мастацкага рукадзелля „Цэпэлія“.

Дзень выпаў халадкаваты, навокал беласнежны прастор. Едзем у Бельск, дзе беластоцкая „Цэпэлія“ мае свой аддзел і свае тварныя склады. Час праходзіць за сяброўскай гутаркай. Прэзас А. Пугацэвіч апавядае аб паспяховай дзейнасці свaёй спулдзельні, якая мае за сабой ужо 25-гадовую гісторыю.

— Па-рознаму ў нас бывала, — гаворыць прэзас. — Мы таксама балюча перажывалі агульны заняпад гаспадаркі ў нашай краіне. Асабліва моцна надакучыла нам так званая „падвойная страхоўка“. Хто хацеў пастаянна пастаўляць нам свае вырабы, вымушаны быў дадаткова плаціць немалыя ўзносы на страхоўку, незалежна ад таго, што ўжо быў застрахаваны (ubezpieczony) як уласнік зямлі або член сялянскай сям'і. Многім сялянам гэта проста не апалацілася і яны адракліся ад супрацоўніцтва з намі. Памалу тэты цяжкасці мы пераадольваем. Важна тое, што вырабы нашых народных умельцаў пастаянна карыстаюцца вялікім попытам у краёвых і замежных пакупнікоў.

Пацвярджае гэта таксама і магазінер Тадэвуш Вячорэк — загадчык тaварнага склада „Цэпэліі“ ў Бельску.

— Вырабы з дрэва, — гаворыць ён, — пастаўляюць нам пастаянна нейкіх сорак народных умельцаў, а вырабы з саломы — аж 120 майстроў народнага рукадзелля.

І сапраўды, склад, падпарадкаваны магазінеру Тадэвушу Вячорку, аж пад столь загружаны апалонікамі рознай велічыні і прызначэння, кухоннымі прыладамі ды ўсялякай драўлянай усячынай. А кожны з вырабаў гэтакі прыгожы, утульны, проста чалавечы, што аж хочацца патрымаць яго ў руках, палюбавацца ўмеласцю майстэрскіх рук. Вось аграмадны апалонік, проста велікан, які быў бы прыгодны, здаецца, у завадской або армейскай сталоўках. Аднойчы давялося мне бачыць, як выраблялюць гэтакія апалонікі-веліканы. Гэта ў вёсцы Пагарэльцы, што ў Белавежскай пушчы, у майстэрні Шпаковіча. Кожны з гэтых апалонікаў даводзіцца вырэзваць з адной таўставатай калоды. Работа вельмі цяжкая і адказная, асабліва пад канец працы, калі адным неасцярожным рухам можна сапсаваць цэладзённы свой назойлівы труд.

На складзе ў Тадэвуша Вячорка ёсць і калаўроты, гэтыя колішнія звычайныя прылады, на якіх нашы бабулі цэлую зіму пралі лён і воўну. Але калаўроты ўжо ўпакаваны ў вялікія

(Працяг на стар. 3)

# ПЛЁН УМЕЛЫХ РУК

(Працяг са стар. 1)

скрыні і падрыхтаваны да пастаўкі на экспарт. Гэта выраб майстра Уладзіслава Падсадліка з Гайнаўкі.

— Я толькі гэтым цяпер і займаюся, — кажа пан Падсадлік, які якраз і завітаў у Бельск, каб аформіць нейкую справу з пастаўкай сваіх тавараў.

— Ну і як, аплоціцца? — цікаўлюся.

— Калі раблю, значыць, аплоціцца, — адказвае ён. — Каб не аплацілася, дык кінуў бы і годзе. Няўжо ў Польшчы цяпер работы не хапае!

На суседнім складзе — вырабы з саломы. Гэта розныя пераплёты: каробачкі, бочачкі, кошыкі, падносы — рознай велічыні і рознага прызначэння. Аж вочы губляюцца ў гэтым багацці народных вырабаў.

З другога боку калідора чакаюць адпраўкі традыцыйныя саламяныя дарожкі, тканыя на традыцыйных сялянскіх кроснах.

— Звярніце ўвагу, — адзываецца прэзас А. Пугацэвіч, — вось на гэты выраб, — і бярэ ў рукі вузкаватую саламяную дарожку цёмназалацістага колеру. — Гэта „мата“ з аўсянай саломы, — адзначае прэзас. — Аказваецца, што аўсяныя „маты“ ў спалучэнні з сеткай з медзянога дроту забяспечваюць людзей ад шкоднага праменявання, крыніцай якога з'яўляюцца падземныя вадзяныя жылы. Экраны з аўсянай саломы і медзянога дроту кладуць на падлогу памяшкання, дзе выступае гэтае праменяванне. І там людзі лепш сябе адчуваюць, добра спяць і менш хварэюць. Гэта даказана, — гаворыць прэзас, — польскімі вучонымі.

У гутарку ўключаецца пані Галіна Папялярская, кіраўнічка Бельскага аддзялення „Цэпэліі“, якая сцвярджае, што кожны год яны пастаўляюць народных вырабаў амаль на 40 мільёнаў злотых. Пералічваю. Калі гэтыя сорак мільёнаў злотых раздзяліць роўна на 140 пастаўшчыкаў народных вырабаў, выходзіць па нейкіх 286 тысяч „на галаву“ або амаль 24 тысячы ў месяц. Вядома, „Цэпэлія“, як і Бог, усім няроўна дзеліць. Адным менш, іншым больш, у залежнасці ад паставак тавараў. Але як не лічыць, гэта ўжо парадачны прыбытак у сямейным бюджэце.

— Хто з пастаўшчыкаў, — пытаю ў пані Галіны, — найбольш заслужыўшы вашага прызнання?

— Усіх нашых народных умельцаў трактуем мы аднолькава, — папярэджвае пані кіраўнічка. — Магу толькі адзначыць, што найдаўжэй супрацоўнічаюць з „Цэпэліяй“ Міхалай Барташук, Васіль Куна, Даніла і Вольга Казлоўскія з Міклашоў, а таксама Пятро Троц з Рэдутаў і Марыя Крупа з Кашалёў.

*

„Цікава, — прыкідваю ў думках, — да каго з іх павязе нас прэзас Аляксандр Пугацэвіч?“

Аказваецца, што найперш спыняемся ў школе ў Дубяжыне. Школа святкуе, хаця паздзяржаўнаму гэта звычайны дзень працы — серада.

— Мы гэты дзень адпрацавалі ў суботу, — інфармуе нас дырэктар школы, Янка Суліма.

Дзеці, аднак, прыйшлі на сустрэчу з прадстаўнікамі „Цэпэліі“, якая ўжо ад мінулага школьнага года супрацоўнічае з гэтай школай. Супрацоўніцтва завязлося дзякуючы намаганням настаўніцы Валянціны Шарко, родам з Дубяжына, якая шукала дапамогі ў наладжанні заняткаў па мастацкай вышыўцы для найбольш здольных вучняў. Яно разгортваецца паспяхова. У маёй прысутнасці, рэалізуючы праграму дапамогі школе, прэзас А. Пугацэвіч перадаў вучням з Дубяжына ў карыстанне невялікія кросны, на якіх можна практыкаваць тканне сапраўдных народных вырабаў.

На наш прыезд дзеці з Дубяжына падрыхтавалі спецыяльную выстаўку сваіх „вышывак“ і „гафтаў“. Сапраўды, было чым пазахапляцца. Асабліва спадабаліся гасцям наборы сурвэтак Івоны Томчук і Касі Шарко, а таксама і вырабы Элі Федарчук.

Кася Шарко — дачка настаўніцы Валянціны Шарко, якая ў сваёй прафесіі працуе ўжо 23 гады, а ў Дубяжыне вучыць дзявяты год. Любоў да мастацкай вышыўкі ў гэтай сям'і вядзецца з пакалення ў пакаленне. Мама Валі, а бабулька Касі, Лідзія Жылюк таксама прыгожа вышывае. На выстаўцы, якую падрыхтавалі вучні, між іншымі каштоўнымі рэчамі знаходзіўся ручнік бабулькі Лідзіі, якой зараз ужо за 60 гадоў. А яе ўнучка Кася Шарко іголкай і каляровымі ніткамі „намалявала“ цэлы малюнак, які прадстаўляе від старой Варшавы са славутай калонай караля Зыгмунта на першым плане. Гэта адзін з трох малюнкаў, вышытых вучаніцамі з Дубяжына (Кася Шарко, Эля Федарчук і Івона Томчук), якія ўпрыгожваюць калідор іх новай школы.

Дырэктар Суліма просіць нас ў яшчэ адну класную залу, у якой дзеці з Дубяжына вывучаюць беларускую мову. Тут таксама дэманструюцца каштоўныя народныя вырабы. На століку бачу некалькі старынных, белапалатняных ручнікоў, з вышыўкай у каляровыя кветкі. Кожны з іх — гэта ўжо дакумент адышоўшага часу і цэлая кніга пра сялянскае жыццё-быццё. Пад столікам ляжаць выслужаныя прылады, якія калісьці ўспамагалі і аблягчалі сялянскі труд. Гэта качалкі і драцяныя шчоткі для прачэсвання ільнянага валакна.



**Гэтыя апалонікі-велікапы, якія трымаюць у руках Галіна Папялярская і Тадэуш Вячорэк, вырабляюць народныя ўмельцы ў Пагарэльцах.**

— Гэта экспанаты ў наш беларускі музей, — інфармуе нас дырэктар Янка Суліма. — Іх у нас збіраюць настаўніцы беларускай мовы Яўгенія Таранта і Неаніла Філіпчук.

Шкадую, што я не застаў гэтых настаўніц, дык цяпер ім шчыра дзякую! Добрую работу робіце, паважаныя сяброўкі! Трэба ж нам зберагчы плён умелых рук нашых продкаў!

*

За святочным, безалкагольным (!), але шчырым пачастункам завязваецца ў нас сяброўская гутарка і час праходзіць шпарка. Прэзас А. Пугацэвіч напамінае, аднак, што чакаюць нас у Міклашах і ў Кошках. Аб гэтым аднак іншым разам.

**Віктар Рудчык**

Фота Анатоля Хоміча

# ДАКУМЕНТЫ

Гісторык і карэспандэнт „Нівы“ а. Рыгор Сасна з Сямяцічаў, які ўжо некалькі год нястомна запаўняе ў нашым тыднёвіку „Бібліяграфічны куточак“ і даволі часта змяшчае цікавыя артыкулы з гісторыі Беласточчыны, цяпер паднёс усім, хто цікавіцца мінуўшчынай нашага рэгіёна, каштоўнейшы падарунак — другую кнігу „Бібліяграфіі праваслаўных парафій на Беласточчыне. Храналагічная частка“*).

Калі бліжэй пазнаёмімся са зместам гэтай кнігі ў 250 старонак дробненькага друку, перш за ўсё ўражвае велiч працы, якую ўклаў а. Р. Сасна ў яе падрыхтоўку. У ёй знаходзіцца каля трох тысяч апісанняў розных дакументаў па гісторыі не толькі праваслаўя, але наогул ведаў пра мінулае беларусаў на Беласточчыне. Гэта ў асноўным прававыя акты, фундушовыя запісы, пагадненні, апісанні граніц і маёмасці, загады, рашэнні, лісты, позвы, скаргі, просьбы, справаздачы і іншыя дакументы, змешчаныя ў малавядомых, пераважна рэлігійнага характару, кніжных выданнях і часопісах, да якіх вельмі рэдка — і з вялікай шкодай для гістарычнай праўды — звяртаюцца сучасныя гісторыкі, якія займаюцца мінулым Беласточчыны, асабліва іх маладое пакаленне. Вядомы сваёй незвычайнай працавітасцю і скрупулёзнасцю а. Рыгор Сасна карпатліва даследаваў зборы дзяржаўных архіваў у Беластоку і Любліне, а таксама перакапаў паперы ва ўсіх праваслаўных парафіях Беласточчыны і ў выніку ўвёў у навуковы зварот шмат дакументаў, пра існаванне якіх многія нават і не здагадваліся, альбо ведала вельмі вузкае кола зацікаўленых. Каштоўнасць працы а. Р. Сасны ў тым, што да кожнага спомненага ў ёй дакумента пададзены дакладныя звесткі пра крыніцу, дзе ён апублікаваны альбо знаходзіцца, а вартасць яе павялічана імянным і геаграфічным паказальнікам ды аж 19 картамі, якія ілюструюць не толькі гісторыю праваслаўя на Беластоцкай зямлі, але і гістарычныя яе перыпетыі.

„Бібліяграфія“ ахоплівае значны прамежак часу: пачынае яе фундушовы запіс на царкву св. Тройцы ў Сямяцічах, датаваны 25 красавіка 1431 года, а завяршае артыкул у „Газеце Вспулчэснай“ пра сустрэчу 27 снежня 1984 года віцэ-прэм'ера М. Ракоўскага з прадстаўнікамі цэркваў, згуртаваных у Польскай экуменічнай радзе. І чытаецца пра гэтыя 550 год мінулага нашай зямлі, адлюстраванага ў апісаных дакументах, як самую займальную гістарычную эпапею. А з кожнага радка кнігі яскрава бачым нашую, беларусаў, спрадвечнасць і трываласць на Беластоцкай зямлі. Вялікае, шчырае дзякуй айцу Рыгору Сасне за гэтакі неацэнены ўклад у гістарыяграфію нашага краю.

**Мікола Гайдук**

*) Grzegorz Sosna, Bibliografia parafii prawosławnych na Białostocczyźnie. Część chronologiczna, Białostockie Towarzystwo Naukowe, Białystok 1985, s. 250+VIII+19 map, cena 300 zł.




## НЕ МАЎЧУ

**Ты маўчаў,**
**як білі дружбака,**
**Білі словам,**
**як кастэтам адмысловым.**

**Гэта пачатак верша вядомага беларускага паэта Петруся Макаля, варта было б, каб знаді яго ўсе ніўскія карэспандэнты. Можа тады, калі каму прыйшла б ахвота наступіць іншаму на мазалі, прыпомніў бы гэты верш і супакоіўся б, нягледзячы на тое, што „рошчыны“ сабралася нават замнога.**

М. Куптэля я лічыў карэспандэнтам „Нівы“ сярэдняга пакалення. Але, прачытаўшы яго адгалоскі „Дыхаю палемікай“ (№ 33 за 1985 г.), пераканаўся, што ўзрост Куптэля акрэсліць цяжка. Палеміку Гамільтона ён чытае ўжо некалькі дзесяткаў гадоў. Нават даводзілася яму жыць пры паншчыне і, што наймацней яму ўбілася ў галаву, што на жніво да пана мусіў „адзяваць белыя льняныя нагавіцы і такую ж вышываную абавязкова (?) сарочку і ісці ў спякоту жаць панскае жыта. А вечарам сціскаў над рэчкаю сваю Маньку“.

Малады чытач, прачытаўшы споведзь М. Куптэля, не зразумее, чым было нявольніцтва, чым была паншчына. Ізаўру, якая нічога не рабіла, прыгожа адзетую, падсаджваў нявольнік на прыгожага каня і яна ехала ў тое месца, дзе сустракалася з прыгожым Тобі. А Куптэль пасля цяжкага жніва ад 6 да 9 гадзіны не піша, ці скідаў белую вышываную кашулю і апранаў нешта яшчэ прыгажэйшае, ды бег на рэчку сціскаць сваю Маньку. Дзіўныя пакуты нявольніцтва?

Паважаны М. Куптэль! Не веру, што ты жыў у часы сапраўднай паншчыны. Каб мець сякое-такое паняцце аб нявольніцтве, трэба прачытаць хаця б кніжку амерыканскай пісьменніцы Бічэр Стоў „Хата дзядзькі Тома“ і творчасць таксама амерыканскага паэта Генры Лангфіёла. Лічу, што Куптэль чытаў гэтую літаратуру і, можа, нават ведае пра гандаль нявольнікамі, бо, як відаць з адгалоскаў „Дыхаю палемікай“, Куптэль — чалавек адукаваны і нават лічыць, што раўняецца з А. Барскім, бо піша аб ім: „прыемна пабываць з чалавекам, які мае такі самы спосаб думкі“.

Не лічу, што хто-небудзь хацеў бы выкінуць, „выпхнуць“, як піша М. Куптэль, А. Барскага і яго артыкулы з „Нівы“. Барскі атрымаў вышэйшую адукацыю ў Народнай Польшчы. Не змарнаваў гэтай здабычы і аддаў сябе поўнасцю на службу народу. Хвала яму! „Ніва“ сваю папулярнасць здабывае толькі дзякуючы артыкулам А. Барскага — Баршчэўскага.

„Абышло“ і Ф. Хлябіча, што рэдакцыя доўга не друкавала яго ўспамінаў з мінулых гадоў, і што па А. Барскаму Аксеня („Беларускі фальклор“, „Ніва“ № 16 за 1985 г.) была звычайнай вясковай шаптухай. Паводле Ф. Хлябіча, які знаў асабіста Аксеню — яна няшчасны чалавек, якому прырода дала ўсе за-

**(Працяг на стар. 7)**

## КАЛІ ТЫ ДЫРЭКТАР...

**(Працяг са стар. 1)**

мітэт будовы гэтай залы. Сабралі ўжо 600 тысяч злотых. У гэтую будову вялікі ўклад уносяць школьнікі. Яны збіраюць макулатуру, жалеза, бутэлькі і атрыманыя за гэта грошы перадаюць на будову. Бацькі школьнікаў ападаткаваліся на некалькі год па тысячы злотых, а настаўнікі — кожны месяц па сто злотых. Фінансавую дапамогу абяцалі таксама многія ўстановы і прадпрыемствы і ёсць ужо першыя ўплаты.

— Вельмі просім „Ніву“ надрукаваць наш банкаўскі рахунак, — просіць дырэктар. — Думаю, што ўсе тыя, хто хоць крыху звязаны з Бельскам, адгукнуцца на нашу просьбу. Уплачваць грошы трэба на адрас: Społeczny Komitet Budowy Hali Sportowej przy Szkole Podstawowej Nr 3 w Bielsku Podlaskim, konto Nr 51119-1629-132 NBP w Bielsku Podlaskim.

— Да канца бягучага года, — заўважае В. Ляшчынскі, — плануем падрыхтаваць дакументацыю і распачаць пасля будову, так каб у 1990/91 навучальным годзе можна было весці спартыўныя заняткі і арганізаваць розныя вялікія мерапрыемствы.

Нашу размову перарываюць тэлефоны, якія датычаць розных спраў школы. У школе працуе 35 настаўнікаў, значыць, столькі людскіх спраў даводзіцца ўладжваць дырэктару. Сёняшнія тэлефоны датычылі ацэнкі некаторых з іх, тых якраз, якія былі прадстаўлены да ўзнагароды. У гэты дзень таксама адбываўся ў школе фінансавы кантроль, праводзілі радыёвузел, і дырэктара па некалькі разоў выклікала з кабінета сакратарка. Так, калі ты дырэктар, дык спраў у цябе нямала...

Ад 1985 года Васіль Ляшчынскі з'яўляецца і старшынёю раённага аддзела БГКТ.



— Сакратар ГП БГКТ Віталі Луба пераканаў мяне, што пад сілу мне будзе і гэта адказная функцыя, — гаворыць ён, — ну, і я згадзіўся.

У планах працы, прынятых на апошнім пленуме аддзела БГКТ, прадбачана найбольш мерапрыемстваў для моладзі. Будуць цікавыя конкурсы для старэйшых і малодшых школьнікаў. Аб'яўлены літаратурны конкурс на мясцовай гаворцы. Навіною з'яўляюцца конкурсы, звязаныя з мясцовымі традыцыямі, як напрыклад, конкурс на велікодныя пірагі: будзе агляд калядных валачобнікаў, выстаўка звёздаў, сустрэчы з народнымі апавядальнікамі.

Вядзецца збор экспанатаў матэрыяльнай культуры. Методык беларускай мовы Тамара Русачык, ездзячы па школах у розныя вёскі, сабрала ўжо звыш 60-ці цікавых экспанатаў.

— Мы хутчэй у школе створым свой музей, чым Майсеня ў Гайнаўцы, — нажартаваў В. Ляшчынскі. — А ў БГКТоўскую дзейнасць будзем шырэй уключаць моладзь беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча. Робім галоўную стаўку на моладзь, якая добра валодае роднай мовай.

Васіль Ляшчынскі паходзіць з настаўніцкай сям'і. Нарадзіўся ён у 1947 годзе ў Васьках. Там яго бацька і маці працавалі ў школе. Закончыў беларускі клас Педагагічнага ліцэя ў Бельску, а пасля аддзяленне пластыкі і рукадзелля ў Настаўніцкай студыі ў Элку. Яшчэ пазней закончыў педагагічны факультэт Гданьскага універсітэта. Там ажаніўся з дзяўчынай з Гайнаўкі, таксама студэнткай. Сваю прафесіянальную дзейнасць распачаў пасадай дырэктара васьмікласнай школы ў Моры. Пасля паўтарагадовай працы ён у 1975 годзе ўзначальвае бельскую „тройку“. Жонка яго Таццяна настаўнічае ў пачатковай школе № 4 у Бельску. У Ляшчынскіх двое дзяцей — дачка ў сёмым класе, а сын — у чацвертым. Абое яны вучацца ў „тройцы“.

— Ці пры ўсёй занятасці застаецца яшчэ ў вас час на нейкае гоббі? — пытаюся ў дырэктара.

— Раней быў спорт, — адказаў ён і пачаў расказваць, як падрыхтаваная ім спартыўная група з вёскі Мора разграміла ўсіх на ваяводскай алімпіядзе па лёгкай атлетыцы ў 1973 годзе. Школьнікі з Мора вярнуліся тады дадому з 8 залатымі, 2 сярэбранымі і 1 бронзавым медалямі. — Цяпер жа маё гоббі гэта грамадская праца, а найважнейшая справа на сёння гэта пабудова грамадскім чынам вялікай спартыўнай залы.

Нават будучы на пасадзе дырэктара, можна было б сядзець і працаваць спакойна, чакаючы, калі краіна выйдзе з эканамічнага крызісу. Васіль Ляшчынскі лічыць, што калі ты дырэктар, то не маеш права сядзець ціха. Трэба дзейнічаць у імя агульнаграмадскіх інтарэсаў.

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага**

## З ДУМКАЙ ПРА НАС, БЕЛАРУСАЎ

**(Працяг са стар. 1)**

*Я. З.*: Так, не пярэчу: гэта былі ў мяне вельмі працавітыя гады. Удзельнічаў я ў мностве перадвыбарчых сходаў, сустрэч, нарадаў, размаўляў з людзьмі і ў вёсках і ў гарадах. Асабліва мяне цікавілі праблемы развіцця гаспадаркі, асветы, культуры ў рэгіёне, дзе жыве беларускае насельніцтва. На падставе асабістых назіранняў, падрыхтаваных беластоцкім ваяводам дакументаў і вынікаў прац асяродка навуковых даследаванняў у Беластоку я прыйшоў да вываду, што гміны паўднёва-ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства адстаюць у грамадска-гаспадарчым развіцці. У сувязі з гэтым 20 кастрычніка 1985 года я накіраваў беластоцкаму ваяводу інтэрпеляцыю. У ёй паставіў тры асноўныя пытанні. Па-першае, чаму ў нашым ваяводстве была дапушчана дыспрапорцыя ў грамадска-гаспадарчым развіцці паміж тэрыторыяй, на якой у большасці жыве беларускае насельніцтва, і рэштай Беласточчыны? Па-другое, у „Ваяводскай выбарчай праграме“ ПРОН у Беластоку сказана: „Для пашырэння і распаўсюджання ідэі нацыянальнага паразумення і адраджэння і мабілізацыі грамадства на выкананне заданняў, асабліва ў культуры і асвеце, якія ўключаны ў гэтую праграму, трэба ўлічваць нацыянальную структуру“. Прыгадаўшы гэты сказ, я заўважыў, што гэты запіс надалей застаецца толькі на паперы. Органы дзяржаўнай адміністрацыі ў сваіх дакументах нават слоўцам не абмаўляюцца пра беларускую нацыянальную меншасць, якая насяляе нашае ваяводства, і вынікаючыя з гэтага заданні па яе асветных і культурных патрэбах. Па-трэцяе, прадставіўшы катастрафічны стан старогады цалкам спарахнелага будынка, у якім памяшчаецца Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, я запытаўся, што робіць ваявода, каб паправіць варункі навукі ў гэтым ліцэі. Былі яшчэ і іншыя, менш важныя пытанні.

**„Н“: І якія вынікі інтэрпеляцыі?**

*Я. З.*: Ад ваяводы я атрымаў адказ на 15 старонках — дакладны і поўны. На маё першае пытанне ваявода, між іншым, піша, што адставанне ўсходняй часткі Беласточчыны (24 гміны, разам 60 прац. тэрыторыі ваяводства), было вынікам даваеннай адсталасці гэтых зямель, якую з-за розных прычын не ўдалося ліквідаваць у мінулым 40-годдзі. Аднак, гэтай праблеме палітычныя і дзяржаўныя органы прысвячалі і прысвячаюць многа ўвагі. Апошнім часам на жаданне Ваяводскай управы асяродак навуковых даследаванняў у Беластоку правёў комплексны аналіз патрэбаў для развіцця ўсходняй часткі ваяводства. Гэтыя патрэбы — аснова планавання грамадска-гаспадарчага развіцця гэтага рэгіёна на бліжэйшыя і далейшыя гады, а таксама падстава да заха-




Narodnaja kultura i byt Biełarusau. Mińsk 1982. Rec., Sielicki Franciszek. Lud 1984, t 68 s. 285-288.

Antoniuk L. A.: Kultura tekstu naukowego a normalizowanie terminologii naukowej w języku białoruskim. Tłum. Małgorzata Leczycka. Prasa Techniczna 1985, nr 1, s. 23—24, Rez. Sum.

Lemtiuhowa Walentina. Wostoczno-sławianskaja ojkonimija apiellatiwnogo proischożdienija Mińsk 1983. Rec.: Kondratiuk Michał, Slavia Orientalis 1984, nr 1, s. 120—122.

Wołowik Barbara: Nazwy toponimiczne związane z podstawą folusz. Zeszyty Naukowe. Wyższa Szkoła Pedagogiczna w Opolu, Językoznawstwo, Opole 1984, z. 9, s. 131—138, rys.

Rutkowski Henryk: Profesor doktor Jerzy Wiśniewski 1.01.1928—30.10.1983 (Nekrolog). Poradnik Językowy 1984, z. 8, s. 472—475, ilustr.

Sielicki Franciszek: Podania i opowiadania na Wilejszczyźnie w okresie międzywojennym. Slavia Orientalis 1984, nr 1, s. 91—102.

Jarosz M.R.: Piasniar rodnaj ziamli, Życcio i tworczaść J. Kupały. Mińsk 1982. Rec.: Stochel Włodzimierz, Slavia Orientalis, 1983, nr 4, s. 534—536.

Paszkiewicz Piotr: Sobór na Placu Saskim — karta z historii politycznej Warszawy. Kronika Warszawy 1984, nr 4, s. 115-122, ilustr.

Podgórzec Zbigniew: Wokół ikony. Rozmowy z Jerzym Nowosielskim. Warszawa 1985. Rec.: Kempfi Andrzej, Kierunki 1985, nr 25, s. 5, ilustr.

Doroszkiewicz Bazyli: Drogi polskiego prawosławia. Rozm. przepr. Bronisław Tumiłowicz. Argumenty 1985, nr 22, s. 3, ilustr.

Willebrands Johannes: Wielkie zobowiązanie. (Dialog katolicko-prawosławny). Rozm. przepr. Maciej Kozłowski, Tygodnik Powszechny 1985, nr 24, s. 1, 3.

Paprocki Henryk: Apostołowie Słowian. Rozm. przepr. Tadeusz Wyszomirski. Kierunki 1985, nr 25, s. 3, ilustr.

Kto jest kim w Polsce 1984. Warszawa 1984. Rec.: Zieliński Stanisław, Nowe Książki 1985, nr 2, s. 96—98.

P.C.

# АХОЎВАЦЬ ПРЫРОДУ ЯК МАГА ЛЕПШ

Тры дні ў палове студзеня г.г. працягвалася ў Белавежы агульнапольская сесія, прысвечаная праграме Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства ў справе аховы асяроддзя. Сесію арганізавала Камісія аховы прыроды ГП ПТКТ супольна з уладамі Беластоцкага ваяводства.

На сустрэчы ў Белавежы гаварылася не толькі аб задачах, якія ПТКТ павінна рэалізаваць у найбліжэйшых чатырох гадах у справе аховы асяроддзя, але таксама прысутныя былі пазнаёмлены з юрыдычнымі інструментамі аховы прыроды і вынікаючымі адсюль абмежаваннямі вынікаў грамадскіх дзеянняў, адрэкамендавана была новая форма аховы прыроды пад назвай „Зялёныя лёгкія Польшчы“, пракансультаваны пункты выступлення Камісіі аховы прыроды на сесіі, арганізуемай супольна з Генеральнай пракуратурай ПНР, прадстаўлена была праграма дзейнасці Камісіі аховы прыроды ГП ПТКТ і прапановы для дзейнасці ваяводскіх і аддзелавых камісій.

Удзельнікі сесіі мелі таксама магчымасць праслухаць вельмі цікавыя даклады на тэмы прыродных вартасцей Беластоцкага ваяводства на фоне паўночна-ўсходняй часткі Польшчы (дакладваў праф. Аляксандр Сакалоўскі) і праблемаў аховы прыроды і турызму ў Белавежскай пушчы (дакладваў др інж. Чэслаў Аколаў). Апрача таго, пазнаёміліся з рэалізацыяй пастулатаў па ахове прыроды ў Беластоцкім ваяводстве, прадстаўленых ваяводскім захавальнікам прыроды мгр. Лехам Капчынскім.

Белавежскую сесію ўразнастайнілі: у першы дзень дэманстрацыя кароткаметражнага фільма „Кароль пушчы — зубр“, рэалізаванага сужонствам Б. і Я. Чэчамі, і начное наведванне прыродазнаўчага музея; на другі дзень — экскурсіі ў трох групах па пушчы і назіранне зуброў на свабодзе, а вечарам катанне і турысцкі касцёр у Старой Белавежы, на трэці дзень — візіты ў лабараторыях трох мясцовых навуковых цэнтраў. Усе ўдзельнікі сесіі, а было іх звыш 100 чалавек (з розных бакоў Польшчы), атрымалі камплекты турысцкіх даведнікаў, значкоў і дыяпазітываў з Белавежскай пушчы.

Ранг сесіі павысілі сваім удзелам сакратар ВК ПАРП у Беластоку Мечыслаў Дарошка, намеснік беластоцкага ваяводы Аляксандр Чуж, намеснік старшыні ВРН праф. Здзіслаў Пуцэк, старшыня ГП ПТКТ Анджэй Гордан, старшыня Камісіі аховы прыроды ГП ПТКТ Кшыштоф Вольфрам, старшыня ВК ПТКТ у Беластоку Януш Кохан і інш.

**П. Байко**

Фота Артура Дамашэвіча





...даткі для годнага жыцця — прыгажосць, здароўе, голас і сэрца чуллівага на людскую нядолю чалавека, але лёс устрыкнуў сваю кпіну, што Аксеня не жыла, а мучылася цэлае жыццё.

З Ф. Хлябічам я гутарыў некалькі хвілін на адным са з'ездаў карэспандэнтаў і сустракаюся з ім на старонках „Нівы“ ўжо шмат гадоў. Так што лічу, з'елі мы бочку солі, бо гэтага трэба, каб чалавека добра пазнаць. Ацаніў я Ф. Хлябіча як чалавеча шчырага, справядлівага і далёкага ад усялякай подласці. I ўвага М. Куптэля, што Ф. Хлябіч выпіхае артыкулы А. Барскага з „Нівы“ мяне, як то кажуць, закранула за жывое. I тады ўспомніўся мне верш Петруся Макаля: „Я не маўчу“.

**Дзед Кастусь**

Пятрусь Макаль — ураджэнец Беласточчыны. Нарадзіўся і жыў да 12-ці гадоў у вёсцы Крушыняны. У 1945 г. пераехаў з бацькамі ў БССР. Кажа пагаворка: „Не адзін прарок не слаўны ў сваёй бацькаўшчыне“, таму, відаць, і П. Макаль так слаба вядомы чытачам „Нівы“.

**Д.К.**

## ПРЫДЗІ, СОН!

Як тут уцяміць, як тут разабрацца? Не дадуць уваліцца ў зімовы сон нашы публіцысты. Як-небудзь да вясны прасплю, думаю, без клопату, без штодзённага кругавароту: праца, дом, дом, праца, субота — клуб, панядзелак — „Ніва“. Дзеці, грошы, шыварат-навыварат. I ў гэтую паўсядзённасць чалавечых спраў, з якіх наогул і складаецца жыццё, уваходзіць думка А. Барскага:

„Жывуць яны і паводзяць сябе, як нармальныя людзі. Іх сэрцы, аднак, апанаваў мяшчанскі кансумпцыйны падыход да жыцця. Іх галоўны дэвіз — жыць лёгка, жыць выгодна“. Іх — значыць беларусаў. Гэта беларусы хочуць жыць лёгка і выгодна. I А. Барскі іх за гэтакі падыход да жыцця ўпікае. Іншыя народы, людзі могуць жыць лёгка і выгодна, а беларусы ад вякоў жылі цяжка і невыгодна, то і цяпер на гэта не маюць права. Усе гуманныя дактрыны, пачынаючы ад старажытнай Грэцыі, маюць адзіную мэту: каб чалавек жыў лёгка і выгодна. А А. Барскі беларусам ставіць іншую мэту: невыгоду. Выгоду называе „мяшчанскім кансумпцыйным падыходам да жыцця“. Такі падыход да чалавека прыпамінае падыход левых адшчапенцаў ад марксізму, для якіх не найважнейшы ёсць чалавек, а чорт толькі ведае што.

А. Барскі — вопытны паэт. А публіцыст? Перадабрыў. Але як можа быць ён гуманным паэтам, калі мае такія негуманныя думкі? Як тут разумець, як тут разабрацца? Можа фактычна лепш спаць?

**Міхась Махнацкі**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Агню агнём не загасіш.
Адвагай і пекла пройдзеш.
Адзін раз зманіш — другі не паверадь.

...браць амуніцыю, узрыўчатку, кулямёты? Вось праблема! Вашых плакатаў гітлераўцы не пабаяцца...

Грышка Каравай намагаўся ўтаймоўваць свае нервы, але гэта яму не вельмі ўдавалася. Схапіў кубак з самагонкай і праглынуў, колькі змог, гэтай пякучай вадкасці. Хухнуў, працёр губы далонню і моўчкі, непрыхільным позіркам нацэліўся на Дзмітрыя Матвеевіча, які спакойна адказаў яму:

— Зброю і боепрыпасы, а таксама і ўзрыўчатку дабываць трэба на ворагу. Я на гэтай тэрыторыі, да вашага ведама, не з'яўляюся навічком. Дык ведаю не горш ад вас, што зусім па-суседску праходзяць тут важныя чыгуначныя і шасейныя дарогі. У цяжкіх эшалонах і самаходным транспартам фашысты кожны дзень цягнуць на фронт сотні тон усялякай ваеннай тэхнікі і амуніцыі. Вядома, яны нам у падарунку гэтага не дадуць. Трэба прымусіць іх да гэтага сілай і хітрасцю...

Ён на кароткую хвіліну перапыніў сваю гаворку, каб падумаць, як і аб чым яе прадоўжыць. „Трэба было б расказаць ім пра абстаноўку на франтах. Яна цяпер для нас спрыяльная. Здаецца, ужо і Кіеў у нашых руках і да Беларусі фронт дакаціўся. Ай, як шкада, што я і сам не ведаю апошніх паведамленняў Саўінфармбюро. Ад вылету з Масквы, значыць, ад 4 жніўня 1943 года, прайшло ўжо больш за чатыры месяцы. За гэты час шмат чаго змянілася. Можа, аднак, ім пра „рэйкавую вайну“ партызан на Беларусі расказаць? Яна якраз праводзілася ў час нашага прабывання ў раёне знаходжання Брэсцкага партызанскага злучэння. Ну, і пра бітву пад Курскам варта ўспомніць...“

Скарыстаўшы з яго маўчання, адазваўся Рыгор Каравай.

— На, — тыцнуў плакат у рукі партызану, які прапанаваў прыбіць яго на дзвярах, — і прыбівай яго дзе хочаш, нават і на ўласнай... ну, па плячах.

Спадзяваўся пачуць дружны рогат сваіх таварышаў, але яны чамусьці маўчалі, выразна чакалі прадаўжэння гутаркі гэтага чужога чалавека ў ваеннай форме, але без ваенных знакаў адрознення, які назваўся прадстаўніком Савецкай улады. Дзе ж яна, гэтая ўлада? Як далёка яшчэ яна ад Буга? Дзе фактычна цяпер фронт? I ўрэшце пра ўсё гэта нехта ўголас запытаў у Дзмітрыя Макарава.

— Пра Курскую бітву чулі? — адазваўся ён.

— Тут у нямецкіх газетах пісалі, — адказаў яму нехта з партызанаў, якія цяпер густым кальцом акружылі стол пасярэдзіне зямлянкі. — Пісалі, — прадаўжаў партызан, — што немцы выраўнялі лінію фронту...

— Яны так ужо раўняюць сваю лінію фронту ад Масквы і Сталінграда! — весела адказаў Дзмітры Макараў і за час свайго прабывання ў гэтай няўтульнай зямлянцы ўпершыню пачуў ён баявую еднасць з гэтымі абяздоленымі і запалоханымі людзьмі.

— Трэба вам ведаць, таварышы, — хуценька прадоўжыў ён,

(Працяг на стар. 8)

(Працяг са стар. 2)

## ШЧАСЦЕ З ДНА АКІЯНА

надвор'е: а то ж іншыя знойдуць... Яго не спыніла нават нечаканая вялікая трагедыя: аднойчы загінулі ў шторме яго сын, нявестка і ўнук. Да яго розуму ўжо не даходзіла небяспечнасць распачатай ім справы: маўляў, усё роўна пагібель — не ў моры ад шторму ці акул, дык ад кабалы.

Так працягвалася гэтая вар'яцкая пагоня за скарбам яшчэ 10 наступных гадоў. Многія з нанятых ім матросаў даўно пакінулі яго, ужо не будучы ў сілах глядзець у яго здзічэлыя вочы і чуць яго ахрыплы звярыны голас. А хутка двое сыноў Фішара Кір і Кан выявілі злашчасныя абломкі Атохі, якія патанулі ў водарасцях марскіх, пакрыліся тоўстым слоем каралаў. Патрабавалася нямала напружання і тэхнічнай вынаходлівасці, каб падняць 1200 салідных зліткаў золата, шмат срэбных рэчаў і сундукі з залатымі манетамі і іншымі ювелірнымі каштоўнасцямі. Усе гэтыя багацці спецыялісты-эксперты ацанілі пазней у агульную суму 1,2 мільярда долараў — самы буйны клад з дна марскога за апошні час.

Мел Фішар стаў багатым, аб чым марыў усё сваё жыццё, якое ўжо... прайшло. Ён сам гэта добра разумее. Тым больш, што за гэта багацце ён заплаціў маладымі жыццямі сына, нявесткі і ўнука, чые вобразы пастаянна стаяць у яго вачах. У даверлівай размове з блізкімі сябрамі ён і сам пра гэта гаворыць, асабліва калі хто ўслых пазайздросціць яго лёгкаму шчасцю.

**А. Ж.**

## СОННІК

6

**Алтар** — збудуцца патаемныя твае жаданні; стаяць на каленях перад ім — хтосьці патрабуе тваё дапамогі.

**Алфавіт** — клопаты і непрыемнасці з дзецьмі.

**Альбом са здымкамі** — новае сяброўства, але перапоўненае фальшам.

**Альтанка** — змена месца жыхарства, пераезд.

**Амлет** — выбранае жыццё.

**Амазонка** — непаразуменне з каханай асобай.

**Амар** (вялікі марскі рак) — прыемная кампанія.

**Амбон, трыбуна** — уваходзіць на іх — ганаровая пасада.

**Ангел** — шчаслівая навіна; ляціць — атрымаеш напамін; спявае — выздараўленне з цяжкае хваробы; многа ангелаў — здзяйсненне зычанняў і спадзяванняў; быць самому ангелам — вялікая пашана і гонар.

**Ануляваць што-небудзь** — востры начальнік, суровы кантроль.

**Анучы, лахманы бачыць** — сорам і нэндза; збіраць — перашкоды.

**Апавяданне** — цяжкая сітуацыя.

**Ападкі** — хвароба далёкага сваяка.

**Апалы** (каштоўныя камені) — няшчасце.

**Апарат фатаграфічны** — даведаешся, што цябе цэняць.

**Апельсіны** — сямейныя няшчасці; рваць — адлеглае шчасце; купляць — каханне з узаемнасцю; прадаваць — новыя знаёмствы; есці — дарэмныя стараннi; лупіць — любоўныя забавы.

**Аперацыя** — злоўжыванне ўслужлівасці.

**Аперацыйныя інструменты** — неспадзяваная спадчына.

**Аплатка або просвірка** — спакой сумлення.

**Аплаткі** — жаданыя звесткі.

(Працяг са стар. 2)

## НА МЯЖЫ

быць нядобра бачаны нашымі ўладамі", — адказаў рашуча старшыня. І я зразумеў, што для новага старшыні, зрэшты, добрага па характары чалавека, намнога менш важная нацыянальная справа, чым апінія аб ім ва ўладах.

Вядома таксама, што на працягу многіх гадоў у „Ніве" не паяўляліся артыкулы аб стане беларускай свядомасці або аб асіміляцыі беларусаў. Нягледзячы на тое, што стан гэтых з'яў не мог не выклікаць трывогі ў беларускіх розумах і сэрцах і што аб гэтых праблемах у прыватных размовах многія беларускія дзеячы гаварылі вельмі мала.

Якраз гэтае бяздзеянне БГКТ і маўчанне „Нівы" ў нацыянальнай справе было найбольшай слабасцю нашага руху. Нацыянальная пасіўнасць нашай арганізацыі як бы запярэчвала сэнсу і галоўнай ідэі тых людзей, якія трыццаць гадоў таму назад стварылі БГКТ. Здаецца мне, што наш абавязак заключаецца ў тым, каб даводзіць да ўсіх беларусаў веды аб тым, што сэнс існавання БГКТ праяўляецца галоўным чынам у яго паслядоўных дзеяннях для ўзмацнення беларускай нацыянальнай свядомасці, для дэмаскацыі праяваў нацыянальнага рэнегатызму, для гордага ўспрыняцця магчымасці жыць годна і па-нацыянальнаму, па-грамадзянску.

**Алесь Барскі**

## Куток практычных ведаў

■ Каб вярнуць бляск фарфору і фаянсу, трэба добра працерці паверхню пасуды лімоннай кіслатой або воцатам з соллю.

■ Каб выцягнуць тугі шкляны корак, трэба накапаць на яго крыху алею і пагрэць ля агню горлачка бутэлькі.




**Вельмі прыгожа** па-беларуску прыслаў „дарагой рэдакцыі „Нівы" калядныя і навагоднія пажаданні (па-старому стылю) пастаянны чытач „Нівы" з Панароўя".

А мы хочам бліжэй пазнаёміцца, а можа і перапісвацца з пастаянным чытачом з Панароўя — давайце адрас.

**Рыгор Мароз** піша: „Вы нам такія блізкія і дарагія, як найлепшыя сваякі. Дзякую „Ніве" за памяць. Мне давялося ў апошні час бальніцу наведаць. І то з „хуткай дапамогай". Што зробіш? Усе хацелі б быць здаровымі, а жыццё хоча інакш. Пытаеш, дарагая „Ніва", ці, можа, што ў сям'і сталася? Сталася. Валінага бацьку пахавалі летам, памёр на модную цяпер хваробу — рак. Аплакалі і далей нясе нас жыццё ў сваю далячынь. А яно ўсяляк бывае — раз лепш, раз горш. Толькі ж, каб гора не было, не ведалі б і дабра. Так што ўсе павароты трэба перайсці, і крутыя, і прамыя. І падаць трэба, і падымацца. І не наракаць занадта. І на іншых не звальваць сваю бяду. Бо няма таго кепскага, каб на добрае не выйшла. Пытаеш, „Ніва", чаму не пішу? Многа трэба было б тлумачыцца. А, можа, проста разленаваўся? Толькі бачу, „Ніве" гэта на кепскае не выходзіць, хоць я і не пішу. Белых месцаў у „Ніве" няма. „Ніва" як была цікавая, так і цяпер такая ж. Баршчэўскі многа піша. Аўрора на ўсю акругу голас падае. І так „Ніва" запоўнена заўсёды. Жадаю ёй і далей, каб так усё было. І многа, многа новых чытачоў. Яна адна наша газета.

Прывітанні ўсім. Праездам не мінайце нас! Дарогу, пэўна, не забылі? Сям'я Марозаў".

(Працяг са стар. 7)

## ХТО КАМАНДЗІРАМ?

— што пасля перамогі ў Сталінградзе, Курская бітва астаткова перабіла хрыбет гітлераўскай гадзюкі. Пад Курскам вораг патраціў каля 30 дывізій, з лікам у звыш паўмільёна чалавек, а яшчэ і паўтары тысячы танкаў, тры тысячы гармат!

— Вось далі прыкурыць! — з агульнай гамонкі вырваўся гучны голас захаплення.

— А дзе ж вы паспелі ўсё гэта палічыць? — іншы партызан таксама ўголас выказаў свой недавер.

— Праўда, калі я разам з іншымі таварышамі 4 жніўня вылятаў з Масквы...

Пачуўшы гэтае слова, партызаны зноў загаманілі. Назва сталіцы вялікай Краіны Саветаў ужо сваім гучаннем дзейнічала на іх, як таемная сіла ўсемагутнага чараўніка. То ж у Маскву кожны дзень накіроўвалі яны свае летуценні і пажаданні, ад Масквы спадзяваліся дапамогі і падтрымкі. І сам факт, што хтосьці пабываў у Маскве, што ўласнымі рукамі дакранаўся да крамлёўскіх сцен, пабываў на Чырвонай плошчы, гэты факт даваў ужо права чалавеку быць духоўна вышэйшым, стаць правадыром іншых.

— Раскажыце нам пра Маскву! — не вытрымаў нехта з партызан, перапыніўшы распачаты расказ пра Курскую бітву. І ў гэты момант Макараў сам не ведаў, што яму рабіць. Ці прадаўжаць свой расказ пра курскую перамогу, ці сапраўды задаволіць пажаданне гэтых зацюканых змагароў за свабоду?

— Дык пра Курскую бітву ці пра Маскву? — запытаў урэшце.

— Пра Маскву, пра Маскву! — з усіх бакоў пасыпаліся галасы.

Макараў пачуў палёгку ў сэрцы. Пра Маскву мог ён расказваць больш упэўнена, чымсьці пра Курскую бітву, якая закончылася пад канец жніўня 1943 года, значыць, ужо пасля ягонага вылету ў партызанскую зону, і пра гэтую бітву прачытаў ён толькі ў нейкай газеце, якая знайшлася ў Брэсцкім партызанскім злучэнні, ды чуў пра яе крыху ад таварышаў-партызан, якія з вуснаў у вусны перадавалі адзін другому гэтую радасную вестку. Затое Маскву Дзмітры Макараў ведаў даволі добра з перыяду свайго практыкавання ў цэнтральных органах дзяржаўнай бяспекі.

...А калі закончыў ён сваю даўгаватую гутарку пра Маскву, тады пасля кароткага перапынку, каб перакурыць, звярнуўся ён да гэтых людзей, якіх тут спалучыла лютая вайна:

— А цяпер, таварышы, давайце разам з вамі падумаем, як нам болей арганізавана ладзіць тут барацьбу з ворагам!

— Бярыце каманду над намі і кіруйце! — заявіў нейкі таварыш, якога Макараў не бачыў, бо засланялі яго іншыя партызаны, але і па голасу і па чыстай рускай, бадай, інтэлігенцкай мове, ён зразумеў, што гэта нехта з ваеннапалонных, магчыма афіцэр Чырвонай Арміі.

— Не, каманду над вамі браць мне нельга! — рашуча адказаў Дзмітры Макараў. — У мяне іншыя заданні і я не магу абмяжоўвацца вашым атрадам. У вас ужо ёсць свой камандзір! — і Дзмітры Макараў паказаў на Рыгора Каравая, які, задзершы галаву і разявіўшы рот, глядзеў на гэтага няпрошанага пасланца з Масквы і не разумеў, да чаго ён імкнецца: ці насмейваецца з яго, Грышкі Каравая, ці ўсур'ёз гаворыць, што ён мае быць камандзірам.

— Камандзірам у вас — Грыгорый Сафронавіч Каравай! І я ўладаю ўпаўнаважанага Беларускім партызанскім штабам ад сённяшняга дня гэта ўцвярджаю!

У зямлянцы падняўся шум. Асабліва паўтараліся галасы на чыста рускай мове. „Сапраўдная партызаншчына! Трэба штосьці рабіць!" — падумаў Макараў. Але аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



# У ПАСЫНКАХ

Аднойчы ў рэдакцыйнай пошце да „Зоркі“ я знайшла вельмі прыгожа напісанае каляровае пісьмо ад вучняў пятага класа з Пасынак. Яны цешыліся, што маюць вельмі цікавыя ўрокі беларускай мовы, якія вядзе ў іх настаўніца Валянціна Іванчук, што любяць сваіх настаўнікаў, і запрашалі, каб „Зорка“ прыехала да іх у школу.

І вось „Зорка“ ў Пасынках.

У вялікім, найбольшым у школе класе (іншых залаў у школе няма) сабраліся ўсёй школай, каб пагаварыць аб „Зорцы“, аб сабе, аб школьных і ўласных справах.

Аб „Зорцы“ я даведалася, што яна наогул падабаецца дзецям з Пасынак. Яны любяць чытаць казкі, вершы, апавяданні і асабліва „Вясёлы куточак“. Чытаюць тут і іншыя беларускія газеты. Старшакласнікі, напрыклад, хвалілі савецкую „Бярозку“.

Потым дзеці расказвалі аб сабе.

Вучні малодшых класаў пахваліліся, што ўжо падрыхтаваліся да ёлкі (сустрэча наша адбылася 17 студзеня), развучылі шмат вершаў, польскіх і беларускіх, дзве п'ескі, у тым ліку беларускую „Гультаі“. Драматычны гурток малодшых класаў працуе пад кіраўніцтвам настаўніцы Марыі Вязоўскай, а старэйшыя класы — у драматычнай групе пад кіраўніцтвам пані Тафілюк. Малыя праспявалі некалькі песень, дэкламавалі вершы аб ёлцы.

Дзяўчаткі з пятага і сёмага класа таксама паказалі, што ведаюць шмат песень і ўмеюць добра спяваць. Асабліва прыгожа спяваюць у гэтай школе сёстры Эля і Аня Касакоўскія, абедзве яшчэ невялічкія, але ўжо спяваюць вельмі ўпэўнена і спраўна на два галасы. Думаю,

(Працяг на стар. 10)



Спяваюць дзяўчаткі пятага і сёмага класаў.

Васіль Чухліб

# ПАСЛЯ ЗАВІРУХІ

У гакоі вісіць барометр, які прадказвае, калі будзе дождж або снег, а калі сонейка. Аднак дзядуля Гардзей глядзіць на яго рэдка.

— У мяне свой барометр, — кажа ён. — Як заные левая рука, дык чакай непагоды.

Дзядулю параніла руку на вайне. Ён быў кулямётчыкам. У карабочку ў яго ляжаць дзве медалі „За адвагу“. Дзяніска іх шмат разоў разглядваў і сябрам паказваў.

Пасля вайны дзядуля шматшмат гадоў быў лесніком. Вунь той лес, за сялом, ён садзіў і гадаваў. Сосны там — вышэй дзядулевай хаты. У лесе і зайцы водзяцца, і грыбы растуць.

Цяпер дзядуля ўжо не ляснік „Заездзілі сіўку высокія горкі“ — кажа ён аб сабе.

Летам дзядуля даглядае сад, пасеку, а калі надыходзяць халады, усё больш у хаце нешта робіць: то валёнкі падшывае, то кошыкі з лазіны пляце. А Дзяніска ў яго памочнікам.

Вось і цяпер: сядзяць яны перад акном, стары пляце кошык на бульбу, а хлопчык, уважліва наглядаючы, падае пруцікі.

— А што, Дзяніс, мабыць, завіруха будзе, — кідае дзед работу і глядзіць у акно.

Дзяніска таксама ўглядаецца ў адтаяўшую шыбу.

— Але ж сонца свеціць, дзядуля. Вунь як снег блішчыць.

— Э, мая левая ніколі мяне не падманула..

Завіруха пачалася на наступны дзень. Кудысьці падзелася сонца, вакол пацямнела, і сад, і агарод, і хаты зніклі ў белым марыве. Снег ішоў увесь дзень і ўсю ноч. Калі Дзяніска прачнуўся і выглянуў у акно, ён убачыў, што яблыні і грушы зрабіліся ніжэйшымі. Яны патанулі ў снезе.

Дзяніска накінуў кажушок і выбег на двор.

— Ой, колькі снегу навапіла! — закрычаў узрадавана ён. — Дзе мае лыжы, дзе мае санкі? Дзядуля, вы не бачылі?

Дзядуля ўжо расчысціў сцяжыну ад ганка да веснічак і цяпер, абапершыся на драўляную лапату, адпачываў.

— Шмат снегу — гэта добра, на ўраджай, — гаварыў дзядуля. — Але мяне вось што непакоіць: як там мае сосны? Галіны ў іх такія цяжкія, а тут столькі снегу навапіла на хвою. Баюся, паломіць дрэвы.

Дзядуля паўздыхаў, потым вынес з-пад паветкі шырокія лыжы, выструганыя некалі з бярозы, дастаў з гарышча доўгую палку. Засунуў за пацёрты салдацкі рамень невялікае тапарышча.

— А я? — Дзяніска адразу зразумеў, куды збіраецца дзядуля.

Аднак давялося яшчэ доўга адпрошвацца ў мамы і бабулі.

— Ну, калі замерзнеце, дадому не вяртайцеся, — сказалі яны ў адзін голас. — Што стары, што малы — два боты — пара...

(Працяг на стар. 10)



 

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## СІНІЧКІ

Палову зімы пражыла я ў лесе. У цёплым утульным пакоі на другім паверсе дома адпачынку. Блізка, насупраць майго акна, сталі заснежаныя сосны. Камлі ў іх пакрыліся наледдзю. Тады я падумала, што птушкі цяпер не маюць ежы ў лесе. Падумала і зрабіла ў той жа дзень з дошчачкі кармушку пры акне.

Са мной сталі сябраваць сінічкі. Першай прыляцела чубатка з аксамітнай сіняй грудкай. Яна неяк з разгону кінулася з сасновай галінкі на кармушку. Не адразу пачала дзяўбаць крошкі. Спачатку прыглядзелася, ці няма тут пасткі або якога іншага ліха.

Да раніцы кармушка была спустошана. Мяне ж разбудзіў, як толькі бліснула сонца, цудоўны канцэрт. Пад самым акном спявалі сінічкі, і як хораша яны спявалі! Славілі жыццё ў лесе, свабоду. Часам у іх спеве я чула трывожны гул марскога прыбою, посвіст горных снежных віхураў, шапаценне жытнёвых хваль. Надзвычай хораша спявалі сінічкі.

Паглядзела я на кармушку. Аднаго позірку было даволі. Спявачкі ўспырхнулі, пераляцелі на сасну. Мне ж хацелася толькі падсыпаць ім яшчэ крошак хлеба і сыру. Падсыпала. Не, не ляцяць.

Стала я прыбіраць пакой, пайшла ўмывацца. Вяртаюся і чую: пырх, пырх. Сінічкі паснедалі, паляцелі гуляць. Неўзабаве яны на досвітку, надвячоркам, а то і ўдзень самі сталі патрабаваць есці. Пасядуць на сасне, заспяваюць. Гэта значыць: рыхтуй корм, у кармушцы пуста.

Праз некаторы час чубатка стала праз фортачку залятаць у мой пакой. Я яшчэ сплю і чую праз сон: нехта гаспадарыць на маім стале. Гэта чубатка. Скача каля шклянкі, цвірчыць, як быццам кажа: „Карміць корміш, а дзе ўзяць вады, каб напіцца?“ Наліла я вады ў бляшанку, паставіла на стале.

Назаўтра зноў прылятае чубатка-разведчыца ў пакой. Папіла, але ляцець не хоча, відаць, спадабалася ёй у мяне, а можа захацелася пагрэцца. Далей — болей. Я цешылася, што сінічка не баіцца мяне, пачынае браць ежу з рук. А часам сядзе на плячо, і няма мне лепшага шчасця.

І сапраўды, ці ж гэта не шчасце, калі маеш такіх сяброў?!

**Зіна Бандарына**

*1. Як пачыналася сяброўства аўтара з сінічкай?*

*2. Ці птушкі адразу з даверам аднесліся да аўтара?*

*3. Падзяліце апавяданне на часткі так, каб ім падыходзілі загалоўкі: Птушкам цяжка. Першае знаёмства. Падзяка. Сінічкі асвойваюцца. Візіты чубаткі. Шчасце.*

*4. Раскажы, як ты і твой клас апякуецеся птушкамі.*

*5. Прачытайце.*

Снег гусцее. Ён тоўстым покрывам атуліў палі і лугі.

Зіма мацнее. Яна бярэ ў сваё ўладанні ўсю прыроду.

Надвор'е халаднее. Яно абяцае надыход вострых маразоў.

*Якія назоўнікі замяняюцца словамі ён, яна, яно?*

**Назоўнікі бываюць трох родаў: м у ж ч ы н с к а г а, ж а н о ч а г а і н і я к а г а.**

**Да назоўнікаў мужчынскага роду (rodzaj męski) можам паставіць слова м о й або замяніць гэты назоўнік словам ё н: снег, вецер, арол, Пеця, Беласток.**

**Да назоўнікаў жаночага роду (rodzaj żeński), можам паставіць слова м а я або замяніць гэты назоўнік словам я н а: зіма, казка, птушка, Ліда, Лодзь.**

**Да назоўнікаў ніякага роду (rodzaj nijaki) можам паставіць слова м а ё або замяніць гэты назоўнік словам я н о: надвор'е, акно, зайчаня, радыё, Аполе.**

(Працяг са стар. 9)

## ПАСЛЯ ЗАВІРУХІ

Але дзядуля з Дзяніскам спяшаліся. Увайшоўшы ў лес, яны ўбачылі, што з соснамі бяда. Многія дрэвы прыгнуў снег, шмат галін абламалася...

Дзядуля стукаў тапарышчам па камлях, біў палкай па галінах. А Дзяніска абтрэсваў снег з малых сасонак. Спыніла іх раскацістае:

— Эгэй-гэй! А што гэта за снегавікі тут ваююць?

Да іх кіраваліся на лыжах ляснік дзядзька Андрэй, а з ім яшчэ людзі.

— Ну, дзядзька Гардзей, вы свой лес не забываеце і ў гакую пару! — здзівіўся ляснік.

— Ці ж можна сябра ў бядзе пакідаць? — адказаў дзядуля.

— А гэтага лесавічка вы тут не замарозілі? — і дзядзька Андрэй абхапіў Дзяніску поламі свайго шырачэзнага кажуха, рукавіцай пацёр яму шчокі.

— Не, мне — наадварот — горача! — засмяяўся Дзяніска.

Ляснік спрытна расклаў вогнішча.

— Абсушыцеся, гэта вам не лета! — параіў ён. — А мы вас падменім.

Людзі пайшлі па лесе, узнімаючы воблакі снегу.

— Цяпер лес не згіне, — супакоіўся дзядуля.

Ён выцягнуў з мяшка некалькі бульбін, прысыпаў іх гарачым вуголлем. Нічога смачнейшага Дзяніска раней ніколі не еў!

А сонца ўжо сядала за вяршыні соснаў, і мокрая хвоя ззяла мірыядамі іскраў. Дрэвы, вызваленыя са снежнага палону, быццам усміхаліся дзядулю Гардзею і Дзяніску.

(Працяг са стар. 9)

## У ПАСЫНКАХ

што ў конкурсе беларускай песні яны маюць вялікія шанцы заняць добрае месца.

Сёлета ў школе адрозніваецца выразна сваёй актыўнасцю ў грамадскай працы пяты клас, той самы, што запрасіў „Зорку“ наведаць іх школу. Пяцікласнікі і расказвалі аб школе найбольш, і спявалі вельмі многа і ахвотна. Гэта яны расказалі, што ў школе працуюць розныя гурткі — два драматычныя, прадметныя, фатаграфічны, спартыўны, актыўна дзейнічаюць гарцэры і зухі, якія запланавалі на вясну шмат цікавых спраў. Аб усім гэтым яны абяцалі напісаць у „Зорку“ самі.

Васьмікласнікі ж старанна рыхтуюцца паступаць у сярэднія і прафесіянальныя школы. Аб сабе гаварыла Аля Семянюк, потым Еля Саковіч прызналася, што яны з Міркай Васілюк рыхтуюцца паступаць у эканамічны ліцэй у Бельску, і таму дадаткова займаюцца ў гуртку польскай мовы, каб лепш здаць уступныя экзамены. Хлопцы-васьмікласнікі пераважна рыхтуюцца ў тэхнічныя школы. Не дзіўлюся: у наш час ні адзін мужчына не ўстаіць перад чарамі тэхнікі — таямнічыя новыя словы, як кампютэры, мікрапрацэсары, відэо і шмат іншых прыцягваюць моладзь сваёй усемагутнасцю і таямнічасцю.

Жадаю ўсім васьмікласнікам спаўнення іх мараў. І яшчэ веру, што ў якой бы школе яны ні вучыліся, як бы далёка ні пайшлі ад дому, не забудуць яны роднай матчынай мовы і сваіх настаўнікаў.

**Яніна Чэрнякевіч**

**Фота аўтара**

## Пазнаёмімся

Раман Салавянюк, Трывежа 52, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 163059, г. Архангельск, ул. Химиков, д. 17, кв. 26. Рухлова Лена. 5 клас.

* * *

СССР, 346504, Ростовская обл., г. Шахты, ул. 25 лет Октября, 3. Музалькова Евгения. 8 клас.

* * *

СССР, 347033, Ростовская обл., Белокалитвенский район, с. Ильинка, II часть, ул. Красноармейская, 8. Божко Наташе. 6 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, п. Таловый, ул. Социалистическая, 9, кв. 17. Тарасенко Ане. 8 клас.

* * *

СССР, 163059, г. Архангельск, ул. Пушкинская, 12, кв. 8. Дерновой Ларисе. 5 клас.

* * *

СССР, 344097, г. Ростов-на-Дону, пр. 40-летия Победы, 308/2, кв. 31. Скочедуб Светлана и Лозовая Таня. 8 клас.

* * *

СССР, 163059, г. Архангельск, ул. 40-летия Победы, 7, кв. 26. Шамрикова Наташа.

* * *

СССР, 346555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Образцова, 2 б, кв. 1. Алиевой Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

## АДКАЗ НА АДГАДАНКУ

**з папярэдняга нумара: „Добра той выхаваны, хто працай выхаваны“.**



**Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі. „Пломіө“**



Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## ФАЛЬКЛОР

### УСТАНЬ, МАМАНЬКА!
(вясельная, для сіраты)




На ганэчку стаяла, стаяла —
салаўя да й слухала, слухала:
— Салавейчык маленькай, маленькай,
Дзе твой голас тоненькай, тоненькай?
Ні шчабечы ты ў вакне, ты ў вакне —
ні задавай жалю мне, жалю мне.
Бо мне, беднуй сіраце, сіраце, —
тоскно ў чужуй старане, старане.
Палеці ты ў вальшынку, вальшынку —
на маёй мамы магілку, магілку:
„Устань, маманька, ні лежы, ні лежы —
мне работу пакажы, пакажы.
Людзі будуць судзіці, судзіці,
што не ўмею рабіці, рабіці".

Ад Эміллі Кедыш, 1921 года нараджэння, вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29 верасня 1985 года М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

Рыбацкі гумар



— Што за нешчаслівае месца! Шосты скарб знайшоў, а чарвякоў усё няма!





Без слоў.

### ПРЫКМЕТА

— Тата, а што мела на прыкмеце наша настаўніца, калі гаварыла, што яблыка ад яблыні далёка не падае?

— Што ты зноў натварыў у школе, паганец?

### НЕШТА ВЫЙДЗЕ

— Наш сын гультаіска, — скардзіцца маці. — Цэлымі днямі качаецца на тахце і глядзіць праз акно ў неба. Не ўяўляю, што з яго выйдзе.

— Можа, метэаролаг, — азваўся бацька.

### УСЁ ВЕДАЕ

— Эй, ты, Гаўрыла, як даехаць да Васількова?

— А адкуль ты ведаеш, што я Гаўрыла?

— Я ўсё ведаю.

— Ну, тады ты павінен ведаць, як да Васількова даехаць.

### НУ, І ДЗІВА!

— От гэтыя жанчыны! З нічога зробяць рэч. Мая, напрыклад, са сваёй спадніцы пашыла мне гальштук.

— Гэта што! Мая наадварот, з майго гальштука пашыла сабе спадніцу.

### ТОЛЬКІ ЖАНАТЫМ

— Вы жанаты? — пытае заказчыка кравец.

— Так.

— Тады магу прапанаваць патайную кішэню для вашага пінжака...

### НЕ ПРАГАДАЎ

— Кірук вельмі дрэнна вучыцца ў школе, як жа ён паступіў у інстытут?

— Добра іграе ў футбол!



Вышаў у людзі — і пачаў глядзець на іх зверам.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Пане псіхіятр, памажыце майму мужу. Ён лічыць сябе скакавым канём.

— Гэта патрабуе доўгага і дарагога лячэння...

— Не мае значэння! Грошы ў нас ёсць: ён ужо выйграў тры забегі...

*

Амерыканскія турысты аглядаюць старажытны французскі замак. Гід паведамляе:

— Звярніце ўвагу на вежу справа, яна не дакончана.

— Вось бачыш, — гаворыць адна турыстка мужу, — навошта было ўставаць так рана?

*

— Многа фантазіі мелі колішнія стваральнікі свяшчэннага пісання, — кажа адзін прыяцель другому. — Ты толькі ўяві, дзьмухнулі воіны ў трубы, і сцены горада Іерыхона тут жа рассыпаліся. Хіба можа быць такі магутны гул?

Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:

— Можа. Схадзіце на канцэрт эстраднай музыкі і вы пачуеце яшчэ не такі...

## МІНІВЕРШЫ

### АБ СПРЭЧКАХ

Гавораць у народзе,
Што спрэчка ісціну народзіць,
Але глядзі —
У спрэчках дурня абыдзі:
З дурнем спрачацца,
Што ў грязі купацца.

**Міхась Скрыпка**

### З „Весніка Задрыпоніі"

### ПАЗАЗЯМНЫЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ ІСНУЮЦЬ

Вучоныя Гудбайскай абсерваторыі ў выніку шматгадовых назіранняў прыйшлі да вываду, што адсутнасць кантактаў з Зямлёю з космасу канчаткова пацвярджае прысутнасць у ім разумных цывілізацый.

### ПРАВІЛА ДУБОВІЧА

Рызыкуй! Паспрабуй на сабе ўсе формы матэрыяльнага стымулавання.



— Калі ты пад кажухам, дык, значыць, ужо мужчына. Папільнуй склад, пакуль я здам бутэлькі і вярнуся.



З чаго смяюцца ў ЗША.




## Курёзы

### РАДЗІЛЬНЫЯ МАШЫНЫ

Аб'ява ў газеце „Вашынгтон пост": „Шлюбная пара, якая не можа мець дзяцей, гатова заплаціць 10 тысяч долараў (плюс выдаткі) жанчыне, якая згодзіцца зачаць і нарадзіць дзіцё спосабам штучнага апладнення... Захаванне тайны гарантуецца".

У Каліфорніі выдаецца спецыяльны каталог „наёмных маці". Тут даныя аб жанчынах, якія прапануюць сябе для падобных паслуг, — весткі аб узросце, колеры вачэй і валос, а таксама, вядома, аб цане.

На сённяшні дзень у ЗША „наёмныя маці" нараджана на свет звыш двухсот дзяцей. Новы бізнес лічыцца выгадным. Нажываюцца на ім у першую чаргу агенты-пасрэднікі.

Гандаль „радзільнымі машынамі" распаўсюджваецца на Еўропу. Англійская „Дэйлі стар" змясціла нядаўна сенсацыйныя матэрыял аб тым, як брытанская наёмная маці, не шкадуючы жывата свайго, зарабляе на рамонт хаты. Яе дэвіз: „Мой жывот належыць таму, хто за яго заплаціць".

„Дэйлі мірор" апублікавала карыкатуру — дзве хатнія гаспадыні плятакараць наконт цяжарнай суседкі: „Я чула, яна чакае аўтамабіль, тэлевізар і новыя гардзіны".

## З намі

Раней выходзяць замуж тыя дзяўчаты, якія пазней прыходзяць дахаты.